## Якія перыядычныя выданні выходзілі ў Магілёве

**(Працяг гістарычнага агляду І. Пушкіна)**

Акрамя кніг, у Магілёве выходзілі выданні перыядычныя (газеты, часопісы, розныя зборнікі). Першая газета у горадзе — "Магілёўскія губернскія ведамасці" — друкавалася у 1838-1917 гг. у губернскай друкарні. У 1883-1917 гг. выходзілі "Магілёўскія епархіяльныя ведамасці" з дадаткам — рэлігійна-маральным часопісам "Воскресенье". Выданне епархіяльных ведамасцей адноўлена ў наш час уладыкам Максімам. Папярэднікам розных сучасных рэкламных газет былі два нумары "Магілёўскага ліста аб'яў" (рэдактар — выдавец А.Сыркін), выйшаўшыя ў 1901 годзе. Губернскія ведамасці ў 1901, 1902-05 гг. выдавалі дадаткі "Сельскагаспадарчы лісток" і "Магілёўскі лісток сельскай гаспадаркі і палявання". Яны у прынцыпе ставілі перад сабой мэту асвятлення амаль тых жа пытанняў, што і цяперашняя газета "Зямля і людзі". Выходзіў у 1906-1917 гг. "Магілёўскі веснік" (рэдактар —выдавец М.Кахановіч). Гэта была штодзённая грамадска-палітычная газета. Можна казаць, што яе традыцыі працягвае сучасная гарадская газета "Веснік Магілёва". Было шмат іншых перыядычных выданняў. Асабліва на рубяжы 1917-1918 гг. Але, як і выданні першых гадоў Савецкай улады, яны былі недаўгачаснымі.

Са студзеня 1919 г. па май 1925 г. выходзіла ў Магілёве грамадска-палітычная і літаратурная газета "Саха і молат", з кастрычніка 1924 г. па лістапад 1929 г. на рускай і беларускай мовах газета "Магілёўскі селянін", у 1929-1941 гг. "Камунар Магілёўшчыны". Пасля вызвалення Магілёва ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў выдавалася газета "За Радзіму", якая з 1956 г. выходзіць пад назвай "Магілёўская праўда".

Доўгі час росквіту сацыялізма абмежаваную інфармацыю несла гараджанам толькі адна газета (не лічачы раённых і вузка прафесійных шматтыражак). Але ж працэс развіцця дэмакратыі і галоснасці, грамадска-палітычнай актыўнасці людзей прывёў да аднаўлення даўніх традыцый у друку перыядычных выданняў на Магілёўшчыне. І сёння, як калісьці, у Магілёве выходзіць вялікая колькасць газет (уступае, мабыць, толькі Мінску) як грамадска-палітычных, так і партыйных, рэкламных, гарадскіх і абласных, рэспубліканскіх. Усяго больш за 15 выданняў. Адноўлены друк магілёўскага рэгіянальнага часопіса "Магілёўская даўніна", культуралагічнага "ВІР".

Параўнальна няшмат, калі разглядаць выданні ў краінах Заходняй Еўропы, але цешыць сэрца тое, што магілёўскія газеты чытаюць, значыць, яны патрэбны. І гэта добра. Нам бы яшчэ паліграфічныя прадпрыемствы і фундатараў, каб наладзіць друкаванне ў горадзе кніг, патрэбных людзям.

## КРЫЖАВАНКА
### Перакладзіце на беларускую мову

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: *5. Круча. 6. Этаж. 10. Опивала, питух. 11. Уход (за кем-нибудь). 12. Беспокойство. 13. Оплот. 15. Жир. 18. Утка. 19. Накал. 20. Железный обруч. 22. Яблоко. 25. Богатырь. 27. Пола. 29. Избушка, лачужка. 31. Случай, повод. 32. Петух. 33. Привычка. 34. Жмыхи.*

ПА ВЕРТЫКАЛІ: *1. Фокусник. 2. Хохот. 3. Склока. 4. Пробел. 7. Забота. 8. Барабанщик. 9. Верхушка. 14. Оккупант. 15. Гнилушка. 16. Стекольщик. 17. Терка. 21. Предок. 23. Очистки. 24. Проточина. 26. Воззвание. 28. Ревунья. 29. Продовольствие. 30. Попечительство.*

## ПАЭТЫЧНАЯ ГАСЦЁЎНЯ ТЫДНЁВІКА

*Рэдакцыя працягвае распачатую ў 10-м нумары беларускую паэтычную старонку. Нагадваем, што да нас можна дасылаць свае вершаваныя думкі. Пакуль знаёмім вас з некаторымі цікавымі творамі з шэрагу апошніх нумароў газеты "Наша Ніва".*

*Сяргей Прылуцкі*

Нашы дзеці ня ўбачаць ніколі,
як зьнішчаецца іхняя мова,
не адчуюць сябе ў няволі,
шпацыруючы па дарогах!



Ня ўбачаць яны ніколі
крыві (той, што магла б
не праліцца),
жыць яны будуць толькі
на волі
й аб краіне сваёй клапаціцца!

Пройдзе ўсё, нават помнікі
катаў
на званы пераплавяць
з ахвотай,
і ня будуць больш верыць
нахабам,
зьневажаючым нашых герояў.

Будзе так! Толькі трэба
сягоньня
не сядзець ў закутках
і маліцца —
нам ніхто не паможа ніколі
акрамя нас саміх. Трэба біцца,

аб'яднаўшы ўсе свае сілы
супраць агрэсіўных імпэрый,
прымушаючых ў роднай краіне
госьцем быць і ў хлусьню
сьлепа верыць.

Будзе так! Толькі трэба
няспынна
працаваць, і штодзённа,
плённа
даставаць з глыбокай краіны
пакаленьня няшчаснага
сорам.

### На Дзень рэспублікі

**АЎТАРКА**

Весяліцца і лікуе ўвесь народ
упалілі сп'яну клюб і азярод
упалілі школу фэрму і тартак
толькі бровара ня спаляць аніяк
не упаляць нізашто і анігды,
бо ня выжывуць бяз вогненнай
вады
п'юць мужчыны і кабеты, дзеці
п'юць
навакола бабкі з пляшкамі
снуюць
і ляціць да неба русіш
перамаць
усюды целы нерухомыя ляжаць
дык упалім жа і клюб і азярод
хай блюе балюе пеніцца народ
хай палаюць хаты фэрмы
і платы
трубы склады гумны мышы
і каты!

### Правадыр і ворагі

*Язэп Вісарыёнаў*

Месяц павольна поўз у гару.
Поўнач. За вокнамі шолахі.
Млосна на сэрцы
правадыру, —
зноўку сасьніліся ворагі.
Быццам бы яву, відовішча
ў сьне
бачыў ён, жахам ахоплены,
нібы ня ён, а Зянон на сьцяне
ў рамцы, багетам аздобленай!
Нібы ня ён, а Пазьняк —
прэзыдэнт,
усенародна прызначаны,
а лука-шчэнтаўскі імідж ушчэнт
іхняй ягомасьцю страчаны!
Быццам ня ён, а нібыта над ім
чыняць злачынна рэпрэсію...
Сон адляцеў неўзабаве,
як дым,
ды ж засталася дэпрэсія.
"Сон не ў руку відавочна,
бо блеф!
Мроя капрызныя ў розуме!
Я ж задушыў назаўжды
бээнэф,
хоціць палохаць пагрозамі!!!
Каб не Барыс, дык запёк бы
ў турму
ўсіх бээнэфаўскіх лідэраў!
А каб саюз — гэт-бы
на Калыму
іх да апошняга б вытурыў!
А Калыма — гэта ж
не Вашынгтон!
Кедры там бураць
напільнікам,
кормяць там "Сьнікерсам"
кожны сезон,
зрэдку — апілкамі
з быльнікам!
Ат бы іх дручылі там маскалі
мовай расейскай з жаргонамі!
Бокам бы вылезьлі ім Віскулі
й Хельсынкі ўсе з Лісабонамі!
Я адмяню, калі прыйдзе
пара,
саміты ўсе ды канвэнцыі..."
Месяц схаваўся. Сьвятло
ліхтара
пляміць пакой рэзыдэнцыі...

## Басовішча '97

У Польшчы штогод праходзіць фэстываль беларускай культуры. Ён адбываецца ў Грудке ля Беластока. У нашай краіне, на жаль, падобных імпрэз няма. А вось польскія беларусы робяць усё магчымае каб беларуская мова і нацыя жылі. Арганізатарам і спонсарам сёлетняга фэста ўжо ў сёмы раз быў вядомы ў Еўропе мастак Лявон Тарасевіч, які такім чынам робіць свята для польскай і беларускай моладзі.

З 17 па 19 ліпеня перад гледачамі спявалі нашыя "Крама", "Палац", "Уліс", "Зніч", "Гай", "Крыўе" ды іншыя. Сярод польскіх музыкаў варта адзначыць гурты "Зэ Дзверы" і "Брага". Фэст у цэлым адбыўся на славу нягледзячы на дрэннае надвор'е. Моладзь танчыла і весялілася. Можна сказаць, што беларусы Беласточчыны і ўласна Беларусі адчувалі сябе адной сям'ёй.

Будзем чакаць цяпер наступнага лета, каб сустрэцца зноў у асяроддзі ўжо старых сяброў і роднай мовы.

**АЛЕСЬ ТАБОЛІЧ.**



Рэдактар Генадзь СУДНІК




Інфармацыйна-аналітычная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".

*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*

Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030 г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

ТЭЛЕФОНЫ: 31-04-15, 22-97-82

Газета набрана і надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова. Зак. 15. Тыраж 2100 асобнікаў. Кошт 2000 руб.